# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№7 (218)

ліпень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”




**У НУМАРЫ:**

## Грамадскія камавіі “Годна” і “Будзьма беларусамі!” ініцыявалі даследаванне “Каштоўнасці і нацыянальная ідэнтычнасць беларусаў”

Чытайце пра тры галоўныя высновы даследавання.

Старонка 2

## Іркуцкі ансамбль “Ленушка” перамог на VI Міжнародным фестывалі “Садружнасць талентаў”

Пра творчы шлях калектыву чытайце ў нататцы Тацяны Сіпаковай.

Старонка 6

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



# “ПАКУЛЬ ВЫ ЁСЦЬ ТАМ, НАМ ПРАСЦЕЙ ЗМАГАЦЦА ЗА СВАЁ ТУТ”

Ганна Севярынец у фэйсбуку разважае, ці маюць маральнае права нашыя былыя суайчыннікі, што з’ехалі за мяжу, а цяпер там ладзяць акцыі салідарнасці “беларусамі звацца”.

У адказ на некалькі бздурычаскіх пастоў пра беларусаў замежжа, маўляў, яны з’ехалі, а цяпер вучаць нас адтуль, як нам жыць, хачу нагадаць, па-першае, словы рэдактара бээсэсэраўскай цэнтральнай газеты “Савецкая Беларусь” Міхася Чарота, якія ён сказаў сто год таму беларусу замежжа, сеймаваму паслу Браніславу Тарашкевічу: “Пакуль вы ёсць там, нам прасцей змагацца за сваё тут”.

Беларусы замежжа захавалі для нас сапраўднага Янку Купалу, і пакуль у нас тут Купалу крамсалі і рэзалі савецкія цэнзары, яны там выдавалі, ахвяруючы па капейчыне, пяцісотстаронкавую Купалаву “Спадчыну”, па якой мы сёння аднаўляем сапраўднага Купалу.

Беларусы замежжа да сёння захоўваюць непарарыўнай першую беларускую дзяржаўнасць, раду БНР.

Беларусы замежжа стварылі і зрабілі фактам нашай агульнай гісторыі першую свабодную радыёстанцыю на беларускай мове, якая сёння стрыміць з самых важных і самых небяспечных кропак сучаснай гісторыі, дае глыбокую аналітыку і зберагае мову.

Беларусы замежжа сабралі ў Лондане ўнікальную бібліятэку беларускіх выданняў, роўнай якой няма ў нас тут і па сёння.

Беларусы замежжа стварылі і захавалі тысячы старонак успамінаў і сведчанняў пра дваццатыя-трыццатыя гады, якія проста фізічна не маглі стварыцца і захавацца ў нас тут.

Беларусы замежжа працуюць сёння ў тых архівах, якія былі вывезены немцамі з Беларусі і недаступныя на сёння большасці нашых даследчыкаў, працуюць – і выдаюць кнігі, не маючы з іх ніякага прыбытку.

Беларусы замежжа асабіста, з невялікіх сваіх заробкаў, ахвяруюць грошы і дапамагаюць цяперашнім выдаўцам з выданнем кніжак тут.

Беларусы замежжа захоўваюць у сваіх супольнасцях і перадаюць дзецям велізарны пласт народнай культуры, якая ў нас тут размываецца псеўдафальклорнымі дажыначнымі спевамі і эстраднымі апрацоўкамі.

Беларусы замежжа стварылі фільм пра старажытныя беларускія спевы і атрымалі дзясяткі ўзнагарод на прэстыжных фестывалях Амерыкі і Еўропы, адкрыўшы свету невядомае і нам самім беларускае багацце самых старых з існых на сёння еўрапейскіх песень.

Урэшце, беларусы замежжа выйшлі па ўсім свеце – і сказалі ў поўны голас, што можна жыць дзе заўгодна, але быць беларусам.

Яны маюць такое ж права голасу, як і мы, бо яны – гэта мы.

**Ганна Севярынец, novychas.by**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# ГРАМАДСКІЯ КАМАНІІ "ГОДНА" І "БУДЗЬМА!" ІНІЦЫЯВАЛІ ДАСЛЕДАВАННЕ "КАШТОЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭНТЫЧНАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ"

Ці праўда, што беларусы сталі больш салідарныя? Што для іх значыць незалежнасць? З якімі якасцямі яны сябе атаясамліваюць? Адбылася прэзентацыя першай часткі вынікаў даследавання "Каштоўнасці і нацыянальная ідэнтычнасць беларусаў".

Ініцыятарамі даследавання сталі грамадскія кампаніі "Годна" і "Будзьма беларусамі", а правядзеннем займалася маркетынгавая кампанія SATIO.

Летась нарадзілася ідэя кампаніі "Годна".

"Яна ў першую чаргу і базавалася на тым, што мы хочам зразумець: што ў паняцце беларусаў, беларускасці, разумення нацыі ўкладаюць самі беларусы. Адчуць той народ, які жыве на гэтай зямлі. Хто яны? Як яны сябе атаясамліваюць з гэтай зямлёй, з гэтай краінай?" – расказвае каардынатар "Годна" **Павал Белавус**.

Паводле Паўла, у кампаніі таксама ёсць і вельмі амбітная ідэя – зрабіць разам са спецыялістамі навукова-папулярны прадукт, прысвечаны нацыянальнай ідэнтычнасці – кнігу пра нацыянальную ідэю, а калі проста, пра тое, "хто мы такія, беларусы".

"Сёлета мы аб'ядналі сілы разам з кампаніяй "Годна", і спецыялісты з SATIO зрабілі вельмі грунтоўнае даследаванне. Яно прысвечана нацыянальнай ідэнтычнасці, нацыянальным і грамадскім каштоўнасцям. Бо нам як грамадскай ініцыятыве вельмі важна зразумець, чаму людзі далучаюцца да грамадскай дзейнасці, чаму, наадварот, застаюцца ў баку? Што для іх салідарнасць? Што для іх суверэнітэт і незалежнасць нашай краіны?" – тлумачыць каардынатарка кампаніі "Будзьма беларусамі!" **Алена Макоўская**.



Дзень Волі ў Мінску, 24 сакавіка 2019 года.

У анлайн-апытанні паўдзельнічалі 1589 чалавек, старэйшых за 18 гадоў, з розных гарадоў Беларусі. Упершыню падобнае даследаванне правялі ў 2009 годзе.

"Былі праведзены тры фокус-групы, у якіх мы спрабавалі пабудаваць гіпотэзы, як можа выглядаць беларуская ідэнтычнасць, на чым яна можа грунтавацца, якія каштоўнасці важныя для чалавека, як ён ставіцца да мовы, незалежнасці і іншых пытанняў" – тлумачыць **Філіп Біканаў**, эксперт кампаніі SATIO.

Біканаў лічыць, што праводзіць апытанні, якія тычацца ідэнтычнасці, грамадскай актыўнасці ці абыякавасці больш якасна можна анлайн. Бо калі людзі бачаць перад сабой інтэрв'юера, спрабуюць адказаць так, каб спадабацца яму і грамадству.



Алена Макоўская.




Павал Белавус.

### "Свядомыя", "савецкія", "абыякавыя" і "канформныя"

Паводле таго, як удзельнікі апытання ацэньваюць сваё асяроддзе, даследчыкі ўмоўна падзялілі грамадства на чатыры кластары.

- "Свядомыя" (11%) – гэта людзі, у якіх сфармавалася нацыянальная ідэнтычнасць.
- "Савецкія" (34%) – групу назвалі так не таму, што яны хочуць вярнуць Савецкі Саюз. Гэта людзі, для якіх важныя каштоўнасці і ўсё тое добрае, што транслявала савецкая дзяржава.
- "Абыякавыя" (25%) – гэта сегмент, які, кажуць даследчыкі, можна назваць нават беларусафобскім, таму што для іх беларускія нацыянальныя каштоўнасці не характэрныя і яны да беларускага могуць ставіцца нават з пагардай. Філіп Біканаў тлумачыць, што гэта, пэўна, адзін з сегментаў, які дагэтуль лічыць беларускую мову прыкметай нейкай вясковасці ці "калгаснасці". Але ў гэтай групе і найбольш касмапалітызму. Для яе важныя крытэрыі поспеху, кар'еры і да т.п.
- "Канформныя" (30%). Дэ-факта гэты сегмент – прадукт цяперашняй беларускай сістэмы. Але яны і самыя цікавыя, лічыць каардынатар "Годна" **Франак Вячорка**.

"Гэта людзі, для якіх важныя грамадскія каштоўнасці, такія як незалежнасць, суверэнітэт; у нейкай ступені важныя і дэмакратычныя рэчы, але не так моцна, як для свядомых, – кажа Францішак Вячорка. – Мы доўга выбіралі для іх назву, спачатку прапанавалі "дзяржаўніцкія" ці "грамадзянскія", далей з'явілася прапанова "ўмераныя" ці „памяркоўныя". Але ў выніку знайшлася вось гэтая назва "канформныя" – тыя, якія прымаюць, пагаджаюцца, у нейкай ступені ідуць па хвалі, але таксама патэнцыйна могуць паддавацца нейкаму ўплыву. То бок гэта не пакаленне, якое сумуе, настальгуе па савецкім, а тое, якое бярэ на сябе адказнасць за тое, што адбываецца".

Гэтыя падзелы ўмоўныя і не мусяць быць падставай для раз'яднання грамадства, звяртаюць увагу даследчыкі.

"Не трэба будаваць нейкіх іерархічных падыходаў да разумення грамадства. Падзел існуе, але іерархія – гэта кепска, гэта тое, што раз'ядноўвае", – перакананы Філіп Біканаў.

Таксама даследчыкі звяртаюць увагу, што сацыяльна-дэмаграфічныя адрозненні не з'яўляюцца вызначальнымі. Малады чалавек з сегмента "свядомыя" будзе больш падобным да сталага чалавека з таго ж сегмента, чым да маладога чалавека з іншага сегмента.

"Вельмі заганны, трывіяльны, застарэлы падыход – падзяляць грамадства паводле полу, адукацыі, колькасці дзяцей і іншае. Гэта не працуе. На самой справе куды больш важна – гэта светапогляд, каштоўнасці і, часам, псіхалагічныя асаблівасці. Такі падзел дазваляе лепш зразумець нашае грамадства, пабачыць больш істотныя сувязі паміж тым, як чалавек ацэньвае грамадства, асяроддзе, як ён сябе паводзіць" – тлумачыць эксперт кампаніі SATIO Алег Алампіеў.



Ніна Шыдлоўская.

## "Свабоды важныя для большасці"

Яшчэ адзін з вынікаў даследавання – "Вяршэнства закону, свабодныя выбары, асабістая свабода – найважнейшыя каштоўнасці сярод іншых". На думку большасці апытаных, дэмакратычныя каштоўнасці ў Беларусі не забяспечваюцца. Сегмент "свядомыя" найбольш не задаволены сітуацыяй са свабодай, а сегмент "савецкія" – найменш.

"Для кампаніі „Годна" найбольш важна, што бальшыня цэніць дэмакратычныя правы, – кажа Франак Вячорка. – Яны таксама разумеюць, што яны не выконваюцца ў краіне. Гэта сведчыць пра нейкую ступень асэнсавання патрэбы свабодных выбараў, справядлівага і адкрытага суду і разам з тым асэнсавання, што іх дзяржава не забяспечвае гэтыя правы ў адпаведнай ступені. І мы бачым, што гэта актуальна не толькі для "свядомых" ці "канформных", але і для ўсіх груп".

Напярэдадні дзяржаўнага свята Дня Незалежнасці Беларусі 3 ліпеня тэма святаў робіцца вельмі актуальнай. І тут вынікі даследавання могуць сапраўды здзівіць.

"Нас цікавіла не толькі існая сітуацыя, але і стаўленне людзей да таго, як гэта мусіць змяніцца. Сёння, прычым з моцнай перавагай, вядучым святам краіны большасць беларусаў лічыць 3 ліпеня. І яно абыходзіць амаль на чвэрць Дзень Перамогі", – расказвае Вадзім Мажэйка.


Франак Вячорка.

А вось ад геаграфічнай прыналежнасці апытаных вынікі ўсяго даследавання не надта залежаць, тлумачыць Філіп Біканаў. Больш залежаць ад памеру горада, чым ад яго геаграфічнага размяшчэння.

"Але ў Віцебскай і Гомельскай вобласці больш людзей з сегмента "абыякавы", і ў Віцебскай трошкі больш "савецкіх", чым у іншых гарадах. Але і тут спрацоўвае тая ж сістэма, як са стэрэатыпамі пра маладых: то бок чалавек з кластара "свядомыя" ў маленькім горадзе больш падобны да "свядомага" ў Мінску, чым да чалавека ў маленькім горадзе з кластару "абыякавыя".

## "Была дыскусія, ці варта рабіць даследаванне, калі грамадства перажывае крызіс"

Важныя высновы зробленая і пра салідарнасць грамадства. Асноўныя бар'еры для салідарнасці і актыўнасці, гавораць даследчыкі, гэта пачуццё бессэнсоўнасці, памножанае на страх пакарання.

"Гэтую частку [даследавання. – РС.] рабілі падчас каранавіруснага крызісу і, безумоўна, мы ацэньвалі, што сітуацыя адрозніваецца ад нармальнасці. Была дыскусія, ці варта рабіць даследаванне, калі грамадства перажывае крызіс. Але мы пагадзіліся, што новая нармальнасць так ці інакш будзе адрознівацца ад мінулай, і наша задача зафіксаваць гэтую новую якасць, новую змену", – тлумачыць Франак Вячорка.

І ўдалося зафіксаваць не толькі змены ў грамадстве, але і змены, звязаныя з удзелам людзей у грамадскіх працэсах, зборах сродкаў, праявах салідарнасці, дабрачыннасці. Вынікі паказваюць, што якасць грамадзянскай супольнасці палепшылася. А вось страх і пачуццё бессэнсоўнасці можна зменшыць, лічыць Філіп Біканаў.

"Калі мы пытаем пра праявы грамадскай пазіцыі і салідарнасці, людзі адказваюць у пазітыўным ключы", – кажа Біканаў.

## "Страх і зняверанасць стрымліваюць беларусаў ад удзелу ў грамадскай дзейнасці"

На думку каардынатаркі кампаніі "Будзьма беларусамі!" Алены Макоўскай, гэты страх беларусаў – не штосьці канкрэтнае, а проста нейкае пачуццё, якое замінае чалавеку зрабіць першы крок да нейкай актыўнасці і салідарнасці.

"Мінулыя нашы даследаванні паказалі, што больш людзі хочуць, каб з імі больш размаўлялі на беларускай мове, зрабілі рэкламу па-беларуску, чым адважваюцца зрабіць вось гэты крок з актыўнасцю. Таму што, калі ты робіш крок, натуральна, будуць нейкія наступствы, а якія, ты не ведаеш, таму і з'яўляецца страх. А калі б змянялася дзяржаўная палітыка, якая казала б, што грамадская актыўнасць – гэта крута і здорава, то людзі разумелі б, што наступствы будуць пазітыўныя", – кажа Макоўская.

"Мінулыя даследаванні паказалі таксама, што беларусы яшчэ і назіральнікі. Яны глядзяць, як робяць іншыя, але сам ці сама пакуль не ўключаюцца ў гэтыя працэсы", – дадае каардынатарка кампаніі "Будзьма беларусамі!" **Ніна Шыдлоўская**.

Што тычыцца пытання незалежнасці, то ва ўсіх сегментах людзі ацэньваюць яе страту негатыўна. Пры гэтым "свядомыя" і "канформныя" ставяцца да інтэграцыі больш негатыўна, а "савецкія" і "абыякавыя" – больш пазітыўна.

"Як і з мовай, так і з інтэграцыяй, гэтая каштоўнасць (незалежнасць. – РС) актуалізуецца, калі актуалізуецца пагроза страты", – тлумачыць Філіп Біканаў.

"Калі мы задаём пытанне, што, можа быць, варта забараніць беларускую мову, то нават тыя рускамоўныя, якія ніколі б пра гэта не падумалі і не займаліся б гэтым, становяцца зацятымі яе абаронцамі", – дадае Франак Вячорка.

## Тры галоўныя высновы даследавання "Каштоўнасці і нацыянальная ідэнтычнасць беларусаў":

- незалежна ад адрозненняў у поглядах, незалежнасць – істотная каштоўнасць для большасці беларусаў;
- большасць апытаных лічыць, што ў Беларусі дэмакратычныя правы не забяспечваюцца;
- грамадства застаецца фрагментаваным, але беларусы гатовыя да салідарнасці і грамадскай актыўнасці. Іх стрымлівае страх і зняверанасць.

**СА,**
**svaboda.org**




Перт (Аўстралія)






Маямі (ЗША)




10.07.
Берн (Швейцарыя)







11.07.
Сан-Францыска (ЗША)




Філадэльфія (ЗША)




Рэджа-Эмілія (Італія)




10.07.
Вільня (Літва)




11.07.
Брусель (Бельгія)
Каля Еўрапарламента



Кракаў (Польшча)

Паводле budzma.by, svaboda.org, nashaniva.by, novychas.by, euroradio.fm, racyja.com, belsat.eu, facebook.com



Кіеў (Украіна)
Каля беларускай амбаса



Чыкага (ЗША)


Тэль-Авіў (Ізраіль)


Лондан (Вялікабрытанія)
Каля Букінгемскага палацу



18.07.
Берлін (Германія)


19.07.
Штутгарт (Германія)


Кіеў (Украіна)


Вашынгтон (ЗША)


18.07.
Беласток (Польшча)


18.07.
Дэнвер (ЗША)



Маямі (ЗША)




Гданьск (Польшча)


Барселона (Іспанія)

навіны

# ІРКУЦКІ АНСАМБЛЬ "ЛЕНУШКА" ПЕРАМОГ НА VI МІЖНАРОДНЫМ ФЕСТЫВАЛІ "САДРУЖНАСЦЬ ТАЛЕНТАЎ"

Падведзены вынікі VI міжнароднага фестывалю-конкурсу нацыянальных культур і сучаснай творчасці "Садружнасць талентаў". Арганізатары: прадзюсарскі цэнтр "La Star" (Таганрог), Рэгіянальная нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Растоўскай вобласці", МНКА "Беларусы Таганрога".

Удзельнікі – творчыя калектывы Расіі і Беларусі розных нацыянальнасцяў, узростаў і жанраў. У намінацыі "Фальклор", ва ўзроставай групе "26+", традыцыі беларусаў Іркуцкай вобласці прадставіў сямейны фальклорны ансамбль "Ленушка" Рэгіянальнай грамадскай арганізацыі "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага" (мастацкі кіраўнік Таццяна Сіпакова). Журы высока ацаніла творчасць калектыву, прысудзіўшы Дыплом Лаўрэата I ступені.

Некалі гэта быў дзіцяча-юнацкі калектыў, які працаваў на базе ўстаноў дадатковай адукацыі, а сёння "Ленушка" – сямейны ансамбль. Найчасцей яго ўдзельнікі спяваюць для сябе і за сямейным сталом, за "бяседай", не канцэртуючы, але рэдкія выступы да радасці аматараў традыцыйнай культуры ўсё ж такі здараюцца. А яшчэ "Ленушка" заўсёды бярэ ўдзел у зводных хорах беларусаў Іркуцкай вобласці.

Пра творчы шлях калектыву чытайце ніжэй, у нататцы Таццяны Сіпаковай.



Сямейны фальклорны ансамбль "Ленушка", 2020. Алена, Кася, Таццяна.

### І льецца песня-рака...

Невядома колькі гадоў нясе свае воды Лена-рака, шырока, прывольна, убіраючы ў сябе жыццё вялікіх і малых паселішчаў. Яна славіцца не толькі сваёй паўнаводнасцю, але і працавітасцю! Жыхары Поўначы клічуць яе карміцелькай, сібірскай прыгажуняй, складаюць у яе гонар балады, песні і ганарацца сваёй прыналежнасцю да яе велічы. Шырокая рака, крутыя яе берагі, у начной цішыні далёка чуецца гудок парахода, а цягучыя ленскія песні рэхам разносяцца па наваколлі.

Поўная ласкі Кірэнская зямля, горад рачнікоў, лётчыкаў і паляўнічых стаў радзімай для дзіцячага спеўнага калектыву ў 1989 годзе, і імя яны ўзялі сабе ад Лены-ракі, ласкавае, пявучае – Ленушка!

Упартасць і талент маладых пявуннях, звонкія галасы дзяўчат знайшлі свайго слухача, living рознахарактарныя рускія народныя песні і сямейныя песні беларусаў перасяленцаў прыйшліся даспадобы.

Трыццаць гадоў таму гульні і карагоды на Масленіцу, Каляды і Вялікдзень былі дзівосамі, але колькі гульнявых праграм з прымаўкамі ды пацехамі было згуляна – не пералічыць. На сцэнах упершыню разгарнулася абрадавае дзеянне каляндарных свят. Вучыліся самі і перадавалі веды аб традыцыях і звычаях народных свят нашым гледачам.

У 1992 годзе ансамблю было нададзена званне "дзіцячы ўзорны калектыў", і ў тым жа годзе адбыўся першы выезд на абласны фальклорны фестываль, дзе ансамбль увайшоў у тройку прызёраў. Гэта быў трыумф! Дзяўчыны красныя ды зграбныя, а ў нас яшчэ і касцюмы былі чырвоныя, на што і свая прыказка была: "Якія дзеўкі, слаўныя ды красныя! Ды самі вы чырвоныя, а мы пявучыя ды гаваручыя". Адным словам, заслужылі сваю долю славы.



Каляды ў беларусаў.

Кірэнск нас выгадаваў, а Іркуцк адкрыў шлях да далёкіх перспектыў. Воляю лёсу зрабіўшыся ў 1996 годзе іркуцянамі, доўга прызвычайвацца не давялося. Рэпертуар быў напрацаваны багаты, спеўны досвед захаваўся, і ўжо ў кастрычніку ансамбль заявіў пра сябе самастойна арганізаваным святам "Рамяство есці не просіць, а хлеб прыносіць" на сцэнічнай пляцоўцы іркуцкага Палаца дзіцячай творчасці. Нас вельмі падтрымала і натхніла на новыя здзяйсненні Ніна Кукарына, дырэктарка Палаца, чалавек, стрыманы на хвалу, які ўмее адрозніць сапраўднае ад наноснага. Яна дала магчымасць выступаць у гарадскіх канцэртных праграмах, што ў той час было зусім не проста.

Багатая геаграфія нашых выступаў прывяла да знаёмства з беларускай грамадой у асобе Алега Рудакова. Зоркі спрыяльна сышліся: таварыству патрэбны быў калектыў, правадыр беларускай культуры, а нам трэба было паглыбіцца ў песенную культуру беларусаў, бо свае перасяленскія песні мы ўжо перараслі. Тандэм склаўся плённы, разам мы выйшлі на новую прыступку ў засваенні і прапагандзе беларускай народнай культуры праз святы, канцэртныя праграмы, гастролі.

Больш за дзесяць гадоў ансамбль "Ленушка" быў візітоўкай беларускага таварыства, годна і прафесійна прадстаўляючы грамадскую арганізацыю на самых розных узроўнях, ад гарадскога да міжнароднага. Маладосць, запал, прыгажосць дзяўчат, сцэнічны артыстызм заўсёды мелі ў аўдыторыі водгук, захапленне і заслужаныя апладысменты. Гэта быў магутны рывок у развіцці як арганізацыі, гэтак і ансамбля. І сёння ўсцешна ўсведамляць сваё дачыненне, як той казаў: "...мы былі першымі на абраным шляху...".

Цячэ рака часу, але гэта няпраўда, што немагчыма ўвайсці ў адну раку двойчы, можна! Толькі адчуванні ўжо будуць іншымі, больш асэнсаванымі, філасофскімі і нават больш пачуццёвымі. Душа заўсёды просіць песні!

У "Ленушкі" зараз новы статус – сямейны ансамбль! Спяваем для душы, ад душы, вось ужо і ўнучкін голас упэўнена ўплятаецца, а гэта значыць: крыніцы народнай песні ніколі не перасохнуць!

І будзем спяваць!
І будзем жыць!

**Таццяна Сіпакова, кіраўніца фальклорнага ансамбля "Ленушка"**



# БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА ПАЧАЛІ ФЛЭШМОБ "БЕЛАРУСКІ СТРОЙ"

Грамадскія ініцыятывы "Tradycyja" і "Традыцыйны строй" запусцілі флэшмоб, які падтрымалі беларусы ў Амерыцы і Еўропе.

Бразілія, Злучаныя Штаты, Нямеччына, Расія – адрасы новай культурніцкай ініцыятывы пад назвай "Беларускі строй", піша Tut.by.

"Беларускі строй – гэта наша ідэнтычнасць, наша сувязь з продкамі і з народам. Нават калі мы далёка адзін ад аднаго, гэта дапамагае адчуць еднасць, падтрымаць сваіх", – растлумачыла сутнасць ідэі ініцыятарка флэшмобу Воля Франка, беларуска з Бразіліі.

**svaboda.org**

# Алена Анісім: НЕ МОЖАМ АТРЫМАЦЬ ЛІЦЭНЗІЮ

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім распавяла, чаму справа з атрыманнем ліцэнзіі для беларускамоўнага Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча пакуль не рухаецца з месца.




**Алена Анісім:** Міністэрства адукацыі не хоча нам даваць ліцэнзію, таму зрухаў няма. Яны перадаюць нам даволі дзіўныя заўвагі і прэтэнзіі, якія, напрыклад тычацца некаторых пытанняў размеркавання студэнтаў альбо нечага іншага, што дазваляе простую працэдуру пераўтварыць у валакіту. І гэта сведчыць выключна пра нежаданне Міністэрства адукацыі дапускаць на рынак установу з беларускай мовай навучання.

Безумоўна, ёсць факты, калі ствараюцца беларускамоўныя дзіцячыя садкі, але ў той жа час робяць усё, каб адзіны на ўсю краіну беларускамоўны ўніверсітэт не з'явіўся ў краіне.

**РР: На якой стадыі спыніўся працэс?**

**Алена Анісім:** На стадыі атрымання ліцэнзій па спецыяльнасцях. Сутнасць у тым, што нават калі мы даем свае прапановы на нейкае метадычнае аб'яднанне нейкага ўніверсітэта, каб яны выказалі свае заўвагі адносна нашай гатоўнасці рыхтаваць студэнтаў па спецыяльнасцях, то зразумела, што без Міністэрства адукацыі яны нічога не могуць нам адказаць. Гэта ж адна сістэма, таму ўсё узгадняецца.

Таму атрымліваецца, што нашы першыя стасункі з Міністэрствам адукацыі – гэта проста біццё лбом у сценку. Гэта нас не палохае, бо ведаем, з кім маем справу. І разумеем, што менавіта мова навучання для чыноўнікаў становіцца крытэрыем для таго, каб не дапусціць адкрыцця ўніверсітэта.

Каля трох год ідзе праца па атрыманні ліцэнзіі. Можа быць, гэта не так і шмат, але пэўныя высновы можна зрабіць, як дзяржава ставіцца да гэтага праекта.

Бо тут жа пры жаданні праблема магла б вырашыцца вельмі проста. Міністэрства адукацыі магло нас запрасіць і сказаць: "Вы павінны ў паперах выправіць канкрэтна тое і тое, і на гэтым пытанне будзе закрыта". Але ж так не робяць. Нам проста ідуць адпіскі. Пра сумеснае супрацоўніцтва гаворкі нават не ідзе.

**Кастусь Заблоцкі, „Беларускае Радыё Рацыя"**

# У ВАРШАВЕ СТВОРАНАЯ ПАРЛАМЕНЦКАЯ ГРУПА ПА ПЫТАННЯХ БЕЛАРУСІ

Мэта групы – падтрымка грамадзянскай супольнасці ў Беларусі і дэмакратызацыі краіны, а таксама развіццё добрасуседскіх адносін паміж Беларуссю і Польшчай.



Сёння ў Варшаве была створаная Парламенцкая група па пытаннях Беларусі. Мэта групы – падтрымка грамадзянскай супольнасці ў Беларусі і дэмакратызацыі краіны, а таксама развіццё добрасуседскіх адносін паміж Беларуссю і Польшчай.

Як паведамляе грамадская арганізацыя "Беларускі дом у Варшаве", групу ўзначаліў дэпутат Сейма Польшчы Роберт Тышкевіч. У сваю чаргу віцэ-старшынямі выбраныя дэпутаты Адам Ліпіньскі, Моніка Фалей і Міхал Шчэрба. Сакратаром групы з'ўляецца Пётр Борыс.

Члены групы засядаюць у Сейме Польшчы ад розных палітычных сіл: кіруючай кансерватыўна-каталіцкай партыі "Права і справядлівасць", права-ліберальнай "Грамадзянскай кааліцыі" і сацыял-дэмакратычнай кааліцыі.

**ВС, „Польскае радыё"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ШТО ЗРАБІЦЬ, КАБ НАЗІРАЦЬ ЗА ВЫБАРАМІ Ў ЗАМЕЖЖЫ? „СПАТРЭБІЦЦА ПРОСТЫ ЛІСТ ПАПЕРЫ“

Да "Бацькаўшчыны" звярнуліся беларусы замежжа з просьбай даведацца, як стаць назіральнікам за выбарамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у іншых краінах. Мы накіравалі пытанні ў Цэнтрвыбаркам і неўзабаве атрымалі ліст, падпісаны старшынёй камісіі Лідзіяй Ярмошынай з тлумачэннямі момантаў у заканадаўстве, якія да гэтага падаваліся няяснымі. Выглядае, што для поспеху, акрамя пашпарту і даверу суграмадзянаў, спатрэбіцца ўсяго толькі аркуш паперы.



Сярод іншага, нас цікавіла, ці можа вылучаць назіральнікаў на выбарах Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" – міжнародная арганізацыя з чальцамі ў розных краінах свету.

Высветлілася, што "на пасяджэннях утвораных за межамі Рэспублікі Беларусь участковых камісіі, як і пры галасаванні, акрамя давераных асоб кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і замежных (міжнародных) наглядальнікаў, акрэдытаваных Цэнтральнай камісіяй, маюць права прысутнічаць наглядальнікі толькі ад грамадзян (не менш 10 чалавек)" (пункт 7 пастановы Цэнтральнай камісіі ад 8 мая 2020 г. №17: http://www.rec.gov.by/sites/default/files/pdf/2020/post17.pdf).

А таксама, што "да выбаршчыкаў, якія пражываюць на тэрыторыі замежнага ўчастка для галасавання і маюць права накіроўваць наглядальнікаў на адпаведны ўчастак для галасавання, адносяцца грамадзяне, якія знаходзяцца на консульскім уліку на дату падачы заявы, а таксама грамадзяне, якіх уключылі ў спіс выбаршчыкаў пры прад'яўленні пашпарта і дакумента аб пражыванні на тэрыторыі замежнай дзяржавы".

Як бачыце, пражываць на тэрыторыі замежнага ўчастка для галасавання неабавязкова. Пры гэтым яшчэ і пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь можа быць любой серыі.

Далей – прасцей:

"Абраўшы ўчастак для галасавання, трэба на звычайным аркушы паперы напісаць заяву на імя старшыні выбарчай камісіі:

«Прашу зарэгістраваць мяне назіральнікам на ўчастку №___ як прадстаўніка грамадзянаў, звесткі пра якіх прыведзены ніжэй (Прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас і подпіс)»

На заяве мусіць быць самае меншае 10 подпісаў пражываючых на тэрыторыі ўчастку.

З гэтай паперай і пашпартам трэба прыйсці на ўчастак у прамежку ад пачатку папярэдняга галасавання да апошніх хвілінаў да закрыцця ўчастку ў асноўны дзень галасавання.

Старшыня выбарчай камісіі ўносіць звесткі пра назіральніка ў адмысловы журнал, пасля чаго грамадзянін можа прыступаць да маніторынгу".

Спадзяемся, атрыманая інфармацыя дапаможа нашым суродзічам. Праўда, ужо цяпер вядома, што на некаторых выбарчых участках у замежжы ахвотным стаць назіральнікамі было адмоўлена.

Мы будзем рады зваротнай сувязі. Паведамляйце, ці атрымалася ў вас, кіруючыся інструкцыяй ад Лідзіі Ярмошынай, стаць назіральнікам.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", фота – РІА "Новости"**

in memoriam

# ПАМЕРЛА МАСТАЧКА ІРЭНА РАГАЛЕВІЧ-ДУТКО



Сумная навіна прыйшла з Нью-Джэрсі. 16 ліпеня 2020 года памерла мастачка Ірэна Рагалевіч-Дутко.

Яна нарадзілася ў 1942 г. у Жыткавічах. Разам з бацькоўскай сям'ёй на пачатку 1950-х прыехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Джэрсі. Сярод іншага, яна ад пачатку рабіла вокладкі БІНіМаўскіх кніг (Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя, Міхася Кавыля і інш.).

Светлая памяць.

**Наталля Гардзіенка**

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні сваякам, блізкім, усім, хто ведаў спадарыню Ірэну.

## Беларускі каляндар памятных дат на жнівень 2020 года

**5 жніўня**
- 35 гадоў таму, у 1985-м, памёр Часлаў Будзька, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**6 жніўня**
- 305 гадоў таму, у 1715-м, нарадзіўся Мацей Догель, гісторык-археограф, правазнавец. Памёр у 1760-м.
- 180 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Альгерд Абуховіч, пісьменнік, удзельнік паўстання 1863–1864 гг. Памёр у 1898-м.

**7 жніўня**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Якуб Ермаловіч, пісьменнік. Памёр у 1987-м.
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Максім Танк (сапр. Яўген Скурко), грамадскі дзеяч, паэт.

**9 жніўня**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Максім Бурсевіч, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху. Расстраляны ў 1937-м.
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзілася Ларыса Геніюш (дзяв. Міклашэвіч), паэтэса. Памерла ў 1983-м.

**13 жніўня**
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Аляксей Мельнікаў, літаратуразнавец.

**14 жніўня**
- 45 гадоў таму, у 1975-м, Янка і Станіслаў Станкевічы заснавалі Вялікалітоўскі фонд імя Льва Сапегі – прыватны дабрачынны фонд для развіцця беларускай навукі.

**15 жніўня**
- 240 гадоў таму, у 1780-м, нарадзіўся Ігнат Анацэвіч, гісторык, археограф, педагог. Памёр у 1845-м.

**16 жніўня**
- 30 гадоў таму, у 1990-м, памёр Язэп Семяжон (Семяжонаў), перакладчык, літаратар.

**23 жніўня**
- 65 гадоў таму, у 1955-м, памёр Іван Краскоўскі, грамадска-культурны дзеяч, педагог.

**25 жніўня**
-75 гадоў таму, у 1945-м, нарадзіўся Валерый Слюнчанка, гісторык архітэктуры. Памёр у 1992-м.

**28 жніўня**
- 380 гадоў таму, у 1640-м, памёр Рафал (Мікалай) Корсак, уніяцкі царкоўны дзеяч.
- 105 гадоў таму, у 1915-м, нарадзіўся Часлаў Найдзюк, грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1995-м.

**31 жніўня**
- 185 гадоў таму, у 1835-м, памёр Людвік Міхаіл Пац, вайсковы дзеяч, удзельнік каўстання 1830–1831 гг.



**Беларусы ў свеце**
№ 7 (218), ліпень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27